


Беларускі
ПЭН
Цэнтр

# культурны супраціў у Беларусі

выпуск 8 (21)

2 сакавіка 2021

***Сёмы месяц працягваецца барацьба беларускага народа за сваё права «людзьмі звацца». Разам з іншымі сферамі жыцця аказвае супраціў культура, і моц яе ў тым, што яна стварае, а не разбурае. Нам усім хочацца вярнуцца ў свае тэатры, друкаваць праўдзівыя кнігі і чытаць іх на плошчах, граць музыку ў дварах, рабіць выставы, расказваць праўду – не баючыся рэпрэсій. Гэтае імкненне – зорачка, што вядзе нас наперад.***


1. ЗАТРЫМАННІ, ПРЫСУДЫ, ПЕРАСЛЕД

2. ЦІСК, ЗВАЛЬНЕННІ, ЗАБАРОНЫ

3. СІМВОЛІКА

4. ТВОРЧЫ СУПРАЦІЎ

5. ГАЛАСЫ АСОБАЎ

6. МІЖНАРОДНАЯ САЛІДАРНАСЦЬ


**ЯК ДАПАМАГЧЫ ДЗЕЯЧАМ І ДЗЯЯЧКАМ КУЛЬТУРЫ**

**падтрымайце кампанію Save Our Songs**

# 1. ЗАТРЫМАННІ, ПРЫСУДЫ, ПЕРАСЛЕД


Фота: spring96.org

**Віктара Таўгеня, жыхара Маладзечна, які на мясцовай акцыі 9 жніўня трымаў у руках музычную калонку, 22 лютага асудзілі на 2 гады абмежавання волі з накіраваннем у папраўчую ўстанову.**



**Зарына Шаўко, удзельніца гурта «Літы талер», затрыманая 22 лютага, асуджаная на 15 сутак адміністратыўнага арышту.**


Фота: office life

**Аляксандру Васілевічу, сузаснавальніку мінскай Галерэі Ў і медыйных платформаў The Village Беларусь і KYKY, працягнулі тэрмін пад вартай яшчэ на 2 месяцы.**



**25 лютага ў Брэсце абвясцілі прысуд першым дзесяці абвінавачаным за карагодны пратэст. Марына Глазава і Яраслаў Ярашук атрымалі па паўтара года, Марына Сірэцан – год хатняй хіміі. Мікалай Федарэнка, Яўген Каўпачык, Аляксей Якубук, Віктар Дзенісенка, Віталь Літвін павінныя адбыць на "хіміі" па паўтара года, Максім Жараў і Вадзім Вdespite Барановіч – па два гады. Фігурантамі "карагоднай справы" з'яўляюцца каля 50 чалавек, іх судзяць групамі па 10 удзельнікаў.**



**Дзяніса Заянчэўскага і Максіма Тацьянка асудзілі на тры гады «хіміі» за інсталяцыю з фотаздымкамі Наталлі Качанавай і міністра ўнутраных спраў Івана Кубракова.**



Фота: Дар'я Бялькевіч

**14 пенсіянерак затрымалі 26 лютага на некалькіх чыгуначных станцыях Мінска. Пенсіянеркі ў электрычцы чыталі беларускія кнігі – гэта была акцыя ў падтрымку беларускай мовы. У дзень затрымання 75-гадовую Наталлю Іванісаву аштрафавалі на 725 рублёў і адпусцілі.**

**1 сакавіка атрымалі штрафы: Засценчык Алена – 1740 рублёў, Каратова Аксана, Кучынская Любоў, Лазебнікава Святлана, Несцяровіч Ніна, Новік Ірына, Шыманская Таццяна – 870 рублёў. 66-гадовай Галіне Гулянковай прысудзілі 20 сутак адміністратыўнага арышту.**

# 2. ЦІСК, ЗВАЛЬНЕННІ, ЗАБАРОНЫ





**З выставы «Асабістая справа» Надзі Букі ў Гродна**
**знялі шэсць карцін з пяцідзесяці шасці,**
**бо на іх было спалучэнне белага і чырвонага колераў.**



**Анатоля Каханчыка, які пафарбаваў фасад сваёй хаты ў бел-чырвона-белыя колеры і адсядзеў за гэта 7 сутак, звольнілі з працы на чыгунцы, дзе ён адпрацаваў 38 гадоў.**

# 3. СІМВОЛІКА

**Колькасць пакаранняў за бел-чырвона-белую сімволіку павялічваецца штотыдзень.**

**Адны з самых трывожных выпадкаў – калі сістэма ціснe на дзяцей. Так шматдзетнай сям'і Мельянцоў пагражаюць статусам сацыяльна небяспечнай за бела-чырвона-белыя жалюзі на вокнах.**



Фота: svaboda.org



**Ігар Краўчэня, жыхар Гомеля, які адбыў 28 сутак у Буда-Кашалёўскім ІЧУ за фота з бел-чырвона-белым сцягам пад навагодня ялінкай, трымаў галадоўку ўсе 28 дзён.**

**23 сутак на дваіх, штрафы і канфіскаваныя на 28 тысяч рублёў тавары атрымалі ўладальнікі крамы «Мой модны кут», якая гандлюе таварамі з нацыянальнай сімволікай.**





**887 беларускіх гісторыкаў даслалі ліст у абарону бел-чырвона-белага сцяга генпракурору, старшыні Палаты прадстаўнікоў і дырэктару Інстытута гісторыі НАН Беларусі.**

# 4. ТВОРЧЫ СУПРАЦІЎ



Павел Аракелян прэзентаваў кліп: «Заўтра я пайду паміраць».
Анімацыя ад Маргарыты Ціхановіч.



Праект «Словы мацней»:
беларускі паэт Дзмітрый Строцаў чытае верш Майсея Кульбака.

Праект Freedom Belarus хоча стварыць віртуальны музей – бяспечную пляцоўку для творчых людзей Беларусі. Дзеля гэтага яны сабралі каманду і распачалі краўдфандынгавую кампанію.






Праект «Revision 30» паказвае жыццё краіны ў 90-х і ў 2020 годзе. У яго два аўтары-фатографы: Сяргей і Зміцер Брушко, бацька і сын, а таксама каманда аднадумцаў. Яны заспелі розныя гістарычныя часы і адлюстравалі іх кожны па-свойму.

## Новыя творы мастацтва



**Вольга Якубоўская**
**«Вясна блізка!»**

**Марта Шматава**
**«Нядзеля. 2020. Беларусь.»**





**Vi Valiukevich**
**«З нагоды салідарнасці**
**і падтрымкі галоўных спеваў**
**Беларусі – галасоў журналіст_ак –**
**у дачыненні да якіх**
**працягваюць выносіць прысуды**
**на гады зняволення ў калоніях.»**




**Дабрачынны канцэрт у падтрымку пацярпелых незалежных аўтараў, распаўсюднікаў ды выдаўцоў правялі Максім Жбанкоў, які прачытаў урыўкі са сваёй новай кнігі «SloMo. Хатняя крытыка культурнага дызайну», і Арцём Залескі, які расстаўляў музычныя акцэнты.**



**Трансляцыя канцэрта гурта «РСП» («Разбітае сэрца пацана») для фэсту «Артысты перамогі» прайшла 27 лютага. Канцэрт быў запісаны арганізатарамі загадзя, і літаральна праз дзень пасля запісу музыкаў затрымалі і пакаралі адміністратыўным арыштам.**



Фота: Euroradio.fm

# 5. ГАЛАСЫ АСОБАЎ



Фота: Reuters

**Святлана Алексіевіч,**
**якая цяпер <u>знаходзіцца на лячэнні</u> ў Германіі:**
***«Нам цяпер вельмі важна захаваць сябе маральна. Я мяркую, гэта адзінае выйсце са становішча: трэба захаваць самапавагу. Наперадзе вясна, і яна мусіць стаць сур'ёзным выпрабаваннем».***

**Ганна Хітрык, былая <u>актрыса</u> Купалаўскага тэатра, музыка, якая разам з мужам і сынам тры гады таму з'ехала ў Ізраіль дзеля лепшых умоваў для сына, у якога дыягнаставалі аўтызм.**
***«Мы не можам зараз усе ўзяць і патануць: папросту не маем права, бо ўжо памерлі людзі. Мы не можам здацца, бо, маўляў, усё неяк вяленька. Я веру, што ўсё будзе добра».***



Фота: nn.by



**Вольга Семчанка, звольненая з Магілёўскага драматычнага тэатра <u>загадчыца літаратурна-драматургічнай часткі</u>.**
***«Шляху назад ужо няма. З нашым існаваннем улада не змірыцца. Нас усіх пералічылі па галовах, і далей з намі будуць „працаваць“. Калі б пратэст для яе не быў настолькі важны, то нас бы не саджалі».***

**Алег Гарбуз, былы акцёр Купалаўскага тэатра.**
***«Не Павел Латушка разваліў тэатр і не Гарбачоў разбурыў краіну. Гэта – гістарычна наспелыя перамены».***



Фота: kinopoisk.ru



Фота: Уладзь Грыдзін

**Зміцер Брушко**, **фатограф.**
***«Мы глядзім не на пратэст,***
***а на фармаваньне нацыі».***

**Святлана Купрэева,**
**былая сяброўка ініцыятыўнай групы Віктара Бабарыкі,**
**дачка паэта Міколы Купрэева,**
**9 месяцаў знаходзіцца ў СІЗА на Валадарцы,**
**там яна пачала пісаць вершы.**
***«Добра было б жыць, каб заўсёды атачалі людзі***
***такія, як цяпер: добрыя, не эгаісты, цярплівыя,***
***якія пастаянна ўсміхаюцца. Гэта шчасце —***
***сустрэць такіх людзей, як у мяне цяпер.***
***Цяпер у турмах сядзяць найлепшыя».***




Міхаіл Краўцэвіч (Courtesy photo)



**Марыя Калеснікава**
**дала інтэрв’ю з-за кратаў.**
***«Моцна нестае музыкі,***
***якую я дужа люблю.***
***Свет музыкі, у якім я жыву***
***апошнія 30 гадоў,***
***моцна адрозніваецца ад таго,***
***што я чую тут. Адсутнасць***
***музыкі і ёсць катаванне.***
***Ратуе памяць,***
***калі я заплюшчваю вочы***
***і слухаю ўнутры сябе Баха,***
***Моцарта і тое,***
***што я грала сама».***

# 6. МІЖНАРОДНАЯ САЛІДАРНАСЦЬ




Французскі ПЭН-клуб выказвае салідарнасць з Беларуссю.





Міжнародная федэрацыя перакладчыкаў (FIT) патрабуе вызвалення Вольгі Калацкай, а таксама спынення гвалту і рэпрэсій у дачыненні да пісьменнікаў, перакладчыкаў і незалежных культурных дзеячаў у Беларусі.






Украінская асацыяцыя перакладчыкаў далучаецца да заявы Міжнароднай федэрацыі перакладчыкаў і патрабуе неадкладнага вызвалення Вольгі Калацкай.





У цэнтры Беластоку запрацавала выстава «Беларусь абуджаная».

Фота: racyja.com



**Брытанская зорка тэатра Крысцін Мілвард у падтрымку беларусаў запісала ўрывак з «Час сэканд хэнд» Святланы Алексіевіч.**



**Расійская оперная спявачка Святлана Касьян запісала гімн-малітву «Salve, Regina» у знак салідарнасці з беларускамі і беларусамі, якія нягледзячы на пераслед працягваюць мірную барацьбу за свабоду і справядлівасць.**

**Акторы Фінскага нацыянальнага тэатру зладзілі чытку п’есы Андрэя Курэйчыка «Пакрыўджаныя. Беларусь(сія)» ў перакладзе на ангельскую мову і зрабілі ахвяраванне ў падтрымку тэатральнай супольнасці Беларусі праз Беларускі фонд культурнай салідарнасці.**



